# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



№10 (233)

кастрычнік 202

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб’яднанне “Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына”


## У НУМАРЫ:

### Распачаліся заняткі курсаў “Мова нанова з Варшавы”

Далучыцца можа кожны. У дачыненні да заняткаў новага курса “Мова нанова з Варшавы” гэтыя тры словы – не пусты гук. Прысутнічаць, хай нават віртуальна, выконваць практыкаванні і ўдзельнічаць у дыскусіі тут будзе магчымаць для ўсіх.

Старонка 2

### У Вільні адкрыўся гурток беларускіх традыцыйных спеваў

Пра тое, навошта традыцыйныя спевы ў сучасным свеце і чым яны дапамагаюць эмігрантам, разважае фалькларыстка і спявачка Святлана Чакушка.

Старонка 4

### “Беларуская акадэмія” атрымала дазвол у Польшчы на навучанне па-беларуску

“Беларуская акадэмія”, якая адкрылася сёлета на пачатку года і працуе дыстанцыйна ў партнёрстве з трыма навучальнымі ўстановамі Польшчы.

Старонка 7

Ва ўмовах пандэміі COVID-19 Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына” працягвае сваю працу, але, выконваючы рэкамендацыі СААЗ, у рэжыме самаізаляцыі.

Беражыце і вы сябе таксама!

#будзьмадома



svaboda.org (RFE/RL)

# “НОЧ РАССТРАЛЯНЫХ ПАЭТАЎ”-2021

У ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 г. ва ўнутранай турме НКУС у Мінску былі растраляныя больш за 100 беларускіх дзеячаў навукі, культуры, мастацтва і літаратуры. У тым ліку 22 літаратары. Кожны год у гэты дзень праводзіцца акцыя памяці пад сімвалічнай назвай “Ноч расстраляных паэтаў”.

Сёлета “Ноч расстраляных паэтаў” прайшла па ўсім свеце, акрамі Мінску. Быў створаны адмысловы сайт nochpaetau.com, дзе можна пабачыць, у якіх гарадах ладзіліся акцыі.

## “СЛОВЫ МАЦНЕЙ”

“Словы мацней” – відэапраект ад кампаніі “Будзьма беларусамі!”, Саюза беларускіх пісьменнікаў і Беларускага ПЭН-цэнтра. У ім сучасныя дзеячы культуры, якія пацярпелі ад пераследу і ўціску за культурніцкія акцыі пасля выбараў прэзідэнта 2020 года, чытаюць творы сваіх папярэднікаў, асуджаных у сталінскія часы.



## СУСВЕТНЫ КАНГРЭС БЕЛАРУСАЎ 2.0

Беларусы з усяго свету на працягу сутак абмяркоўвалі, як дапамагчы краіне выйсці з палітычнага і гуманітарнага крызісу.

Сусветны кангрэс беларусаў 2.0 прайшоў 30 кастрычніка ў фармаце дваццацічатырохгадзіннай відэаканферэнцыі. Яго мэта – глабальны дыялог будучыні Беларусі з удзелам палітыкаў, грамадскіх актывістаў, лідараў меркаванняў, экспертаў і даследчыкаў. Арганізатары мерапрыемства – валанцёры беларускай супольнасці за мяжой. Цягам сутак на розных дыскусійных панэлях – палітыка, грамадзянская супольнасць, эканоміка, культура і іншых – эксперты і ўсе зацікаўленыя абмяркоўвалі сітуацыю ў Беларусі, а таксама, што можна зрабіць для пашырэння беларускасці ў свеце.





СУСВЕТНЫ КАНГРЭС БЕЛАРУСАЎ 2.0

30 КАСТРЫЧНІКА

з 00:00 па 23:59

Завяршыўся кангрэс анлайн-канцэртам гурта NAVIBAND.

Паводле novychas.by

мова

# РАСПАЧАЛІСЯ ЗАНЯТКІ КУРСАЎ "МОВА НАНОВА З ВАРШАВЫ"




Далучыцца можа кожны. У дачыненні да заняткаў новага курса "Мова нанова з Варшавы" гэтыя тры словы – не пусты гук. Прысутнічаць, хай нават віртуальна, выконваць практыкаванні і ўдзельнічаць у дыскусіі тут будзе магчымасць для ўсіх. Бо асноўную стаўку арганізатары робяць не на саму сустрэчу (спатканні праходзяць у Варшаве, у Цэнтры беларускай салідарнасці штопанядзелак а 18.30), а на яе анлайн-трансляцыю.

Хто будзе гасцямі? Ці можна стаць валанцёрам праекта? Як навучылі Мікіту Мелказёрава размаўляць пабеларуску для таго самага выпуска youtube-праекта "Жыццё – маліна" – карацей, пра ўсё самае важнае – наша гутарка з вядоўцамі і арганізатарамі курсаў Алесяй і Антосем.

**– Давайце пачнём з галоўнага. Прайшлі першыя заняткі "Мова нанова з Варшавы". Вы задаволеныя тым, што атрымалася?**

**Антось:** Мы ў цэлым задаволеныя тым, што робім, не зважаючы на тое, колькі людзей прыходзіць на заняткі. Галоўнае, каб у іх была цікавасць і ахвота даведвацца новае пра беларускую культуру і мову. Калі ёсць запыт, то чаму гэтым не займацца? Але рана казаць пра нейкія глабальныя высновы, бо мы пакуль што тэсціруем розныя фарматы, правяраем, які з іх найбольш падыдзе нашым наведнікам. Так, самы першы занятак-знаёмства правялі ў фармаце ток-шоў, зладзілі вялікую сустрэчу з музыкам, а другі, калі ўжо пачалася непасрэдная практыка мовы з практыкаваннямі і ўрокам, арыентавалі на дыскусію, каб атрымалася двухбаковая зацікаўленая размова гасцей і ўдзельнікаў. Наступным разам праверым неша яшчэ, пакуль не знойдзем залатое рашэнне, якое падыдзе анлайн-гледачу з Беларусі.

**Алеся:** І я цалкам задаволеная. Таму што мы ўжо зрабілі добры аб'ём працы. Дамовіліся з Цэнтрам беларускай салідарнасці наконт памяшкання і абсталявання. Гэта, падаецца, першы такі важны момант. Падругое, сабралася крутая каманда. Ну, і трэцяе – нашы слухачы, якія даверыліся нам і прыйшлі на заняткі. Было бачна, што ў іх розны ўзровень валодання мовай, але галоўнае, што ў іх ёсць запыт на вывучэнне беларускай мовы і яны прыйшлі да нас, каб скарыстацца гэтай цудоўнай магчымасцю.

**– Анлайн-глядач у Беларусі – асноўная мэтавая аўдыторыя праекта?**

**Антось:** Так, мы імкнёмся рабіць асноўны акцэнт і стаўку не столькі на мерапрыемства афлайнавае, сустрэчу беларусаў Варшавы, колькі на тое, што анлайн-трансляцыя будзе запатрабаваная нашымі землякамі, якія жывуць у іншых гарадах, у тым ліку беларускіх, дзе сёння няма магчымасці праводзіць сустрэчы падобнага кшталту. Пакуль што выходзіць 50 на 50. Першую сустрэчу курса ў Цэнтры беларускай салідарнасці наведала крыху больш за 20 "студэнтаў" і прыкладна столькі ж далучылася да заняткаў анлайн.

Мы толькі пачалі працу па пашырэнні інфармацыі пра нашы сустрэчы, старонкі ў сацыяльных сетках толькі нядаўна створаныя, таму зразумела, што актыўнасць гледачоў у інтэрнэце яшчэ не такая высокая. З цягам часу ўсё выправіцца. Яшчэ раз падкрэслю: мы адмыслова робім акцэнт на тых, хто сёння жыве ў Беларусі. З Варшавы сёння прасцей і бяспечней зладзіць імпрэзу беларускай скіраванасці, таму яшчэ раз акцэнтую важнасць прыназоўніка ў назве нашых сустрэч. Мы менавіта "Мова нанова З Варшавы", бо спадзяемся трансляваць відэа адсюль у вялікі беларускі свет.

**Алеся:** На жаль, Беларусь зараз перажывае чарговы этап пераследу ўсяго беларускамоўнага і нацыянальнага. І калі, напраклад, у мінулым стагоддзі людзям, якія хацелі валодаць мовай, было даволі цяжка гэта ўвасобіць, то цяпер мы маем інтэрнэт-пляцоўкі, якія дазваляюць ладзіць анлайн-сустрэчы з любой кропкі свету. Таму мы выкарыстоўваем напоўніцу ўсе магчымасці.

**Алеся:** Канечне, першы паказчык, каб госць валодаў беларускай мовай і сваім прыкладам натхняў слухачоў часцей і актыўней выкарыстоўваць мову. Акрамя таго, перыядычна нашы заняткі супадаюць з рознымі гістарычнымі падзеямі, святамі і таму намагаемся запрашаць людзей, якія спецыялізуюцца на адпаведнай тэме, каб закрануць не толькі моўныя аспекты, але і гісторыю, культуру, мастацтва і іншыя сферы нашага жыцця. Тым больш, калі госць, напрыклад беларускамоўны шахцёр ці бортнік, ці арнітолаг, то гэта яшчэ больш уражвае слухачоў. Таму што такія людзі "бліжэйшыя да народа".

**Антось:** Для вечарыны-знаёмства мы адмыслова абралі Алеся Дзянісава, каб першы занятак выклікаў шмат шуму, каб на сустрэчу прыйшлі тыя, хто проста хацеў пабачыцца з землякамі, зноў пабыць на канцэрце знаёмага музыкі.

А ўжо другая вечарына сабрала менавіта тых, хто хоча падвучыцца, падцягнуць свой узровень валодання беларускай мовай. Паэтка, даследчыца беларускай літаратуры з Іспаніі Анхела Эспіноса Руіс, якая была госцяй другой вечарыны, дазволіла матываваць нашых удзельнікаў на больш блізкае і дасканалае знаёмства з беларушчынай. Мы паспадзяваліся на тое, што спрацуе звычайны стэрэатып: раз за мяжой нешта прызнаецца як вартае ўвагі, то і нам самім трэба пільней у гэта ўглядацца. Падаецца, усё атрымалася, і гутарка з Анхелай сталася сапраўды карыснай, цікавай для ўсіх. Плынь пытанняў, рэплік як ад удзельнікаў самой сустрэчы ў Цэнтры беларускай салідарнасці, так і ад гледачоў трансляцыі была бясконцай!

**– А хто наступны?**

**Антось:** А гэта пакуль сакрэт! Гасцей стараемся не анансаваць вельмі загадзя: жыццё надта непрадказальнае. Тут усё зразумела, мы пакуль кіруемся такім прынцыпам: запрашаем тых, хто фізічна прысутнічае ў Варшаве, не баіцца адкрыта выступіць на камеру і мае вольны ад спраў вечар панядзелка. Заняткі ладзяцца на валанцёрскай аснове, таму неяк фінансава заахвочваць гасцей мы пакуль не можам. Спадзяёмся, гэта наперадзе.

**– Хто працуе ў камандзе "Мова нанова з Варшавы"? Да вас можна далучацца актыўным беларусам?**

**Антось:** Нас каля 10 чалавек, усе раней былі задзейнічаныя ў арганізацыі курсаў "Мова нанова" ў Бярэсці, Маладзечне, Ваўкавыску, ёсць нават людзі з Масквы. Асноўнымі матэрыяламі сталі напрацоўкі з нашага сайта, але дадаём і новае. Самі арганізатары не ўпершыню ладзяць такія курсы, ужо неаднаразова праводзілі заняткі па такіх тэмах, таму робім іх цікавымі ў тым ліку для сябе, каб не засумаваць. Скажу шчыра: калі б я не быў вядоўцам, то і сам бы хадзіў на заняткі. Гэта ж так цікава! Мы нават кантэнт у сацсетках распрацоўваем так, каб ён быў цікавы найперш нам самім. Бо як можна зацікавіць іншых тым, што цябе не чапляе?

**Алеся:** Антось забыўся яшчэ Ві-






цебск прыгадаць. Каманда вельмі крутая. Але пакуль не ўсіх можам афішаваць. Мяне ўражвае, як мы камунікуем паміж сабой, дзелім абавязкі, падстрахоўваем адно аднаго. Падаецца, адзін з важных паказчыкаў – гэта як арганізаваная праца ў камандзе. І магу сказаць, што мы добра спраўляемся. Мы адкрытыя для актыўных беларусаў. Таму, калі нехта хоча да нас далучыцца і дапамагчы, асабліва ў вядзенні анлайн-заняткаў, будзем вельмі ўдзячныя.

**– У вас у капілцы ўжо ёсць надзвычай яскравы прыклад працы з журналістам Мікітам Мелказёравым, якога літаральна за некалькі тыдняў навучылі больш-менш добра размаўляць па-беларуску, прынамсі, у межах аднаго інтэрв'ю. Як гэтага ўдалося дасягнуць?**

**Антось:** Мелказёраў і сам крыху ведаў беларускую мову, з ім займаліся дзяўчаты, ён глядзеў кіно па-беларуску і меў вялікую матывацыю, сур'ёзна паставіўся да справы. Але мы ўжо падумваем пра тое, што фразу "навучым беларускай мове любога чалавека за два тыдні" варта дадаць у наша партфоліа (смяецца).

**– Вы ўжо казалі, што "Мова нанова з Варшавы" – гэта пакуль што цалкам валанцёрскі праект. Якую ролю гэтая справа адыгрывае ў вашым уласным жыцці?**

**Антось:** Па шчырасці, калі я сам упершыню прыйшоў на занятак "Мова нанова" ў Беларусі, то нават не ведаў, што гэта за ініцыятыва. Пазнаёміўся з Глебам Лабадзенкам, паездзіў па розных гарадах, дзе гэтыя курсы праводзіліся, і зразумеў: гэта класная справа, я хачу тут быць. Лічу, што няма беларуса, які не разумее беларускай мовы. Трэба толькі даць яму тое асяроддзе, дзе гэтая мова будзе арганічнай. "Мова нанова з Варшавы" – месца, дзе можна паразмаўляць па-беларуску, хоць насамрэч тут такіх мясцін цяпер намнога больш. Я ў Варшаве жыву з 2015 года і раней, калі сустракаў земляка, гэта было неверагоднае шчасце. Той чалавек адразу станавіўся сябрам. Цяпер такіх сяброў тут шмат, і гэта радуе. Раней не было такога запыту на беларускую музыку, канцэрты, мы і раней сустракаліся з сябрамі, якія жывуць тут, але гэта была менавіта свая тусоўка, без выхаду на шырокія масы. А цяпер запыт на культурніцкія імпрэзы ёсць, у тым ліку цікавасць да беларускай мовы.

**Алеся:** Мяне ў свой час на "Мова нанова" ў Менску прывёў мой выкладчык. Я чула пра гэтую ініцыятыву, але чамусьці не прыходзіла. А тут запрасілі – і я прыйшла. Глеб Лабадзенка вельмі харызматычны і літаральна заражае сваёй беларускамоўнасцю. Аднойчы Глеб расказваў сваю гісторыю пра атрыманне правоў кіроўцы па-беларуску. Я акурат у гэты час вучылася ў аўташколе і так натхнілася, што дастала ўсіх у школе і ДАІ, каб мне таксама зрабілі па-беларуску. Аказалася, усё вельмі проста. Пасля ўніверсітэта я вярнулася працаваць у Маладзечна, дзе таксама існавалі курсы. Стала туды прыходзіць. Дзесьці праз год ці два, у "Мовы нановы Маладзечна" ўзніклі пытанні наконт памяшкання, і я дапамагла трохі. Такім чынам, курсы пераехалі ў памяшканне ў Музычны каледж, дзе я і працавала. А яшчэ праз год выкладчыца "Мовы нанова" нарадзіла дзіця і больш не магла выкладаць, таму Глеб прапанаваў мне далучыцца. Я трохі вагалася, але пагадзілася.

Таму што беларуская мова – гэта мы. І калі будзе ў людзей запатрабаванне ў ёй, як мы бачым зараз, то я буду ахвяраваць часам, сродкамі дзеля беларускай мовы. Асабліва калі мы ў іншай краіне, дзе вельмі проста згубіцца як нацыя. І, як сказаў адзін мой добры знаёмы: "Галоўнае – не страціць сваю ідэнтычнасць".

Падпісвайцеся на старонкі "Мова нанова з Варшавы" ў сацсетках, каб не прапусціць цікавае:

https://www.facebook.com/MovaNanovaVava

https://www.instagram.com/movananovavava/

і ў тэлеграме і ціктоку @MovaNanovaVava

**Марына Весялуха, budzma.by**

# "МОВА НАНОВА" ЦЯПЕР І Ў ВІЛЬНІ

Арганізатары – спікеры, якія раней праводзілі заняткі ў Беларусі. Дар'я рабіла гэта ў Бабруйску:

"Заняткі "Мова Нанова" ў Беларусі ліквідавалі, але так як шмат беларусаў усё ж такі з'ехала, пры тым важна адзначыць, што многія з гэтых беларусаў не абавязкова беларускамоўныя, таму было вырашана праводзіць заняткі і там, калі ёсць жаданне ў людзей, калі ёсць каму весці заняткі".

А Глеб Сандрас выступаў раней у Салігорску. Цяпер жа ён дамовіўся з Беларускім домам у Вільні, каб заняткі працягнуліся ў новай краіне:

"Я проста ведаў, што гэты будынак адчыняе свае дзверы па рамонце, і спытаў, наколькі гэта магчыма. І з вялікай радасцю і ахвотай мяне сустрэлі".

Ужо праведзена дзве сустрэчы. Тэма другой – пераход уласных імёнаў у агульныя. Апроч гэтага Кацярына Ваданосава распавяла пра гісторыю кнігі, а таксама выступіла са сваімі песнямі і вершамі.

Сустрэчы віленскай МОВЫ НАНОВА запланаваныя штодзень у 18.00 (Беларускі дом, Vilniaus gatve, 20).

**"Беларускае Радыё Рацыя"**



культура

# У ВІЛЬНІ АДКРЫЎСЯ ГУРТОК БЕЛАРУСКІХ ТРАДЫЦЫЙНЫХ СПЕВАЎ

Пра тое, навошта традыцыйныя спевы ў сучасным свеце і чым яны дапамагаюць эмігрантам, разважае фальклярыстка і спявачка гурта Miareza Святлана Чакушка.



### Заняткі па спевах – штосераду і штосуботу

Спеўны гурток адчыніўся на мінулым тыдні ў Вільні пад кіраўніцтвам Святланы Чакушкі, спявачкі гурта Miareža.

“Часова з’ехаўшы з Беларусі, я прыхапіла сваю Беларусь з сабою і мару падзяліцца ёю з вамі. Буду чакаць усіх – усіх ахвочых жыхароў Вільні, каб разам адкрываць для сябе свет беларускага традыцыйнага спеву”, – напісала яна перад першым заняткам у сябе на старонцы ў Facebook.

Заняткі па традыцыйных спевах праходзяць штосераду а 19 гадзіне і штосуботу а 15-й. Яны з’явіліся дзякуючы падтрымцы Віленскага Цэнтра беларускай культуры і супольнасці і праходзяць па адрасе: вуліца Vilniaus, 20.

Першая сустрэча спеўнага гуртка адбылася 22 верасня, і на яе прыйшло даволі шмат людзей, каля двух дзясяткаў. У асноўным гэта былі беларусы Вільні, хтосьці з іх прыехаў зусім нядаўна, іншыя ўжо жывуць там нейкі час.

“Вялікая колькасць беларусаў з’ехала не па сваёй волі, і гэта цяжка, нават калі рашэнне прынята загадзя. А спевы – гэта своеасаблівая медытацыя. Яны могуць быць спосабам псіхалагічнай разгрузкі: калі мне не вельмі добра, я спяваю сама ці збіраюся разам з каляжанкамі, тады робіцца лягчэй, – кажа Святлана. – Магчыма, праз спевы ўдасца дапамагчы людзям расслабіцца і пачаць давяраць адно аднаму”.

Беларусаў у Літве зараз сапраўды шмат: за год, пачынаючы з мінулага жніўня, беларусы атрымалі каля 20 тысяч нацыянальных літоўскіх віз. Вядома, не ўсе атрымальнікі пераехалі і жывуць у Вільні. Тым не менш, можна лёгка сустрэць беларусаў і нават знаёмых выпадкова на вуліцы.

“Я хачу, каб беларусы не згубіліся, хачу даць ім рэчы, якія дапамогуць лягчэй перанесці эміграцыю. Гэта мінімум, які я магу зрабіць, каб людзі не страчвалі сувязь з Радзімай, – кажа Святлана. – Да таго ж мы тут у сваіх варунках, праводзім час з сябрамі і знаёмымі. А мне хацелася б паказаць беларускую культуру жыхарам Вільні. Умоўна кажучы, каб мы ладзілі святы, і на іх прыходзілі мясцовыя літоўцы, палякі і прадстаўнікі іншых нацыянальнасцяў. У сваю чаргу, мне было б цікава на гуртку павучыць спевы іншых народаў – літоўскія, польскія, нават яўрэйскія ці татарскія, каб быў міжкультурны абмен.

<…> Я б хацела, каб беларуская моладзь магла паказаць сябрам з іншых краінаў, якія ў нас ёсць песні, танцы і святы. Нічога не маю супраць “Купалінкі”, але яна не народная. Хацелася б, каб беларусы спявалі не толькі яе”.

На пытанне, ці магчыма было б стварыць такі ж гурток у Беларусі, Святлана тлумачыць: магчыма, але сілы звычайна сыходзілі на іншае – на тое, каб падтрымліваць душэўную раўнавагу.

### “Мы вучыліся спяваць і ездзілі з канцэртамі”

Фальклор Святлана называе сваім ладам жыцця і кажа, што гэты гурток у яе не першы.

“Калісьці ў Віцебску мы з сябрамі таксама стварылі этнаграфічную суполку, а на базе яе з’явіўся гурт. Мы назвалі яго Паўночная Сухадроўка. Сухадроўка – рэчка ў Віцебскім раёне, невялікая, але ёсць жа Паўночная Дзвіна? То хай будзе і Паўночная Сухадроўка. Мы з дзяўчатамі вучыліся разам спяваць, выступалі з канцэртамі на Віцебшчыне, двойчы ездзілі ў Даўгаўпілс на фальклорны фестываль…” – расказвае кіраўнічка спеўнага гуртка.

Пераехаўшы ў Мінск, яна два гады вяла спеўна-этнаграфічны гурток на базе Мінскага дзяржаўнага палаца дзяцей і моладзі. “Там я вучыла спяваць незнаёмых людзей і зразумела, што ў мяне, здаецца, гэта атрымліваецца”, – кажа фальклярыстка.

На гурток у Вільні прыйсці можна не толькі тым, хто выдатна спявае, але і пачаткоўцам: розніца, па словах Святланы, будзе толькі ў тым, як хутка чалавек можа засвоіць матэрыял, ці трэба яму ці ёй займацца дадаткова.

“Да мяне неяк прыйшла дзяўчына, якая ну вельмі ціха размаўляла, але вельмі хацела спяваць. Мы з ёй некалькі разоў займаліся індывідуальна, але ў нейкі момант пачулі, што ў яе нізкі і аб’ёмны голас. І гэта было ваў!” – дзеліцца Святлана Чакушка.

Які ўзровень гуртка? Пакуль складана азначыць, бо калектыў яшчэ не склаўся. Але ў любым разе “ніхто не будзе выганяць за няправільную ноту ці біць па пальцах, як у музычнай школе”, – кажа Святлана.

Магчыма, удзельнікі пажадаюць проста спяваць для душы ў сяброўскай атмасферы, але калі яны паставяць сабе мэту выступаць на фестывалях і канцэртах, то так і будзе, упэўненая кіраўнічка. Важна, што удзельнікі гуртка будуць не проста вывучаць спевы: Святлана ўдакладняе, што яе ідэя ў тым, каб пачынаць кожную сустрэчу з вывучэння традыцыйнай культуры і абрадаў.

Таксама ўдзельнікі звернуць увагу на асаблівасці разнастайнай спеўнай традыцыі Беларусі.

“Тое, як спяваюць на поўдні і на поўначы – розныя рэчы і па мелодыцы, і па гуказдабываню, і па дыялектных момантах”, – тлумачыць Святлана. Гэта азначае, што песні варта пераймаць з тымі асаблівасцямі, з якімі спявалі іх носьбіты.

### Што такое традыцыйныя спевы?

Традыцыйныя спевы – гэта не проста музыка і асаблівая мова. У беларускай традыцыйнай спеўнай культуры яны былі спосабам уздзеяння на сусвет: выконвалі хутчэй не забаўляльную функцыю, а рытуальна-магічную, кажа Святлана Чакушка.

Праз спевы людзі спрабавалі зрабіць так, каб іх жыццё працягвалася і было добрым: багаты ўраджай, прыемнае надвор’е, ладнае жыццё сям’і.

“Традыцыйная культура накіраваная на тое, каб не знікла само жыццё. Рост і змяншэнне дня, рух сонца для продкаў былі магічнымі з’явамі, і праз спевы яны спрабавалі зрабіць так, каб гэты цыкл не спыняўся. Бо ад сонца залежыць нашае жыццё, і гэта навуковы факт”, – разважае Святлана.

Каб надышла новая вясна, маладыя дзяўчаты падымаліся на самую высокую гару ды спрабавалі дакрычацца да сонца і іншасвету. Гэты прыклад паказвае асаблівую ролю жанчын, тыя выконвалі большасць традыцыйных і абрадавых спеваў. Гэта невыпадкова, бо жанчына лічылася дуальнай істотай, што звязаная з іншасветам, прыводзіць у гэты свет іншых людзей, можа ўплываць на продкаў і багоў.

Зрэшты, на гуртку не ставяць за мэту рэканструяваць стары лад жыцця, які ён быў у традыцыйнай культуры. Тады большасць людзей жыло ў вёсцы, а зараз доля гарадскога насельніцтва ў Беларусі каля 80%, і яна ўвесь час расце,ператвараючы Беларусь у адну з самых гарадскіх краін Еўропы.

Зараз свет іншы, і функцыі спеваў змяніліся:

“У мяне адчуванне, што мы, беларусы, як маладое дрэва. Каб расці ўверх, як дрэва, нам трэба вельмі добра ўкараніцца ў глебу. І для мяне частка гэтай глебы – традыцыйная культура, – разважае суразмоўца. – Мы не ведаем, калі вернемся, але стварыць падмурак патрэбна. Складана размаўляць на гэтую тэму… Зрэшты Беларусь – гэта людзі, і мы не павінны пра гэта забываць. Караткевіч казаў, што кожны носіць сваё неба з сабой. Дык вось, кожны носіць сваю Беларусь з сабой. Будзьма беларусамі!”

Ганна Валынец, budzma.by

медыцына

# БЕЛАРУСКІХ ЛЕКАРАЎ, ЯКІЯ ЎЦЯКЛІ АД РЭПРЭСІЯЎ, ПРЫМАЮЦЬ У ВІЛЬНІ

У Літве беларускія медыкі стварылі новую арганізацыю – для дапамогі суайчыннікам у выгнанні і прыцягнення ўвагі да тэмы права на здароўе ў беларускіх турмах. Пра гэта расказала Deutsche Welle.

Physicians for truth and justice ("Лекары за праўду і справядлівасць") – так называецца новая арганізацыя, створаная беларускімі мэдыкамі ў Літве. У Вільні яны адкрылі Цэнтр псмхалагічнай дапамогі, які дазваляе суайчыннікам, што зазналі рэпрэсіі, справіцца з дэпрэсіямі і фобіямі. Працуе і кабінет медыкасацыяльнай кансультацыі. Але галоўны кірунак – праваабарончая дзейнасць у галіне правоў пацыентаў у пенітэнцыярных установах. Ахова здароўя ў месцах несвабоды застаецца ў Беларусі недаследаванай тэмай.

### Дапамога беларусам у выгнанні

Большасць беларусаў, якія звярнуліся па медычную дапамогу ў Вільні, вымушаныя былі ўцячы з краіны, перажыўшы здзекі ў камерах ізалятараў часовага ўтрымання або СІЗА, кажа экс-дырэктар закрытага ўладамі гарадзенскага дзіцячага хоспіса і сузаснавальніца новай арганізацыі Вольга Вялічка. Дэпрэсіі і трывожныя станы пасля такога стрэсу заканамерныя, але дапамога менавіта ў такіх крызісных сітуацыях – толькі адзін з трох кірункаў яе дзейнасці. Значна важней, адзначае яна, працаваць з сямейнымі людзьмі: ва ўмовах эміграцыі пачынаюцца перамены ў асобасных установках мужа і жонкі. Ранейшае жыццё ўжо немагчымае, і на першы план выходзіць высьвятленне міэасобасных стасункаў. А самай складанай праблемай, з якой сутыкнуцца беларусы, прычым не толькі ў выгнанні, але і на бацькаўшчыне, папярэджвае Вольга Вялічка, стане псіхалагічная траўма дзяцей. Дарослыя, тлумачыць яна, могуць сфармуляваць свае праблемы псіхолагу, а дзеці – не.

Дзеці працягваюць заставацца ў стане траўмы з моманту, як яны пачулі размовы аб пратэстах унутры сям'і, як бачылі тое, што адбываецца на вуліцы, некаторыя бачылі, як сілавікі забіраюць бацькоў. Яны ўсё разумеюць, але не могуць сфармуляваць свае перажыванні, кажа Вольга Вялічка: "Калі зараз не працаваць з дзецьмі, то праз 10 гадоў Беларусь атрымае скалечанае пакаленне".

### Тэорыі змовы ад беларусаў

Яшчэ адну нечаканую праблему лекары выявілі ў асяроддзі беларусаў, калі пачалі медыка-сацыяльныя кансультацыі, адзначае Алег Дарашкевіч. Да свайго ад'езду з Беларусі ён займаўся біятэхналогіямі, а ў Вільні сутыкнуўся не толькі з антынавуковымі ўяўленнямі многіх суайчыннікаў аб вакцынацыі супраць ковіду, але і з рэальнымі забабонамі.

"Я шакаваны колькасцю памылковых уяўленняў у людзей нават з вышэйшай адукацыяй і іх "тэорыямі змовы", – кажа Алег Дарашкевіч. – Важна, –адзначае ён, – даваць адказныя медычныя паслугі, грунтуючыся на навуковым досведзе".

"Аказанне дапамогі беларусам у выгнанні – толькі частка працы новай ініцыятывы", – адзначае экскіраўнік медыцынскай службы Дэпартамента выканання пакаранняў (ДВП) МУС Васіль Завадскі. Гэтаму ведамству, якое адказвае за медыцыну ў турмах і папраўчых калоніях, ён аддаў 25 гадоў свайго жыцця.


Вольга Вялічка і Васіль Завадскі

У Беларусі дагэтуль не ўздымалася тэма права на ахову здароўя ў месцах несвабоды, адзначае ён, і гэты прабел ён хацеў бы запоўніць. У рамках грамадскай кампаніі "Здароўе за кратамі" распачата анкетаванне тых, хто пабываў пад арыштам. Пасля апрацоўкі дадзеных можна будзе атрымаць хаця б мінімальную статыстыку. А задача-максімум – падрыхтаваць канцэпцыю рэформы да моманту, калі Беларусь зноў стане прававой дзяржавай.

З парушэннямі правоў пацыента, працягвае Завадскі, беларусы сутыкаюцца штодня. Самы просты прыклад: медыцынская карта ў паліклініцы або ў шпіталі, копію якой атрымаць на рукі можна толькі з боем. "Яшчэ калі я вучыўся ў мэдінстытуце, нас вучылі прынцыпу "доктар піша для сябе", а не для пацыента", – адзначае Васіль Завадскі. І калі на волі такое стаўленне да грамадзян, то можна сабе ўявіць, як ставяцца да пацыентаў у турмах, працягвае ён.

### Гісторыі уцёкаў лекараў

Алегу Дарашкевічу 67 гадоў, у маладосці ён размеркаваўся ў інстытут неўралогіі, а пазней заняўся малекулярнай медыцынай і біятэхналогіямі. Пасля выхаду на пенсію кіраваў праектам ранняй дыягностыкі захворванняў чалавека ў Парку высокіх тэхналогій (ПВТ). У снежні летась ён пачаў выходзіць на маршы пенсіянераў, быў схоплены міліцыяй і адседзеў 14 сутак арышту.


Алег Дарашкевіч

Атрымаўшы яшчэ адну позву, ён, не задумваючыся, уцёк спачатку ў Маскву, а потым у Вільню. Трапіць у такім узросце ў камеру, дзе восем чалавек і жудасныя ўмовы, – гэта страшна, тлумачыць Алег Дарашкевіч, "У мяне былі проста жывёльныя адчуванні страху перад паўторнай адседкай, я баяўся, што не вытрымаю".

Васіль Завадскі пакінуў Беларусь пасля таго, як у лютым падчас хваліператрусаў у памяшканнях прафсаюза РЭП сілавікі знайшлі ў канапе паляўнічы патрон. Пайшоўшы ў адстаўку, Васіль Завадскі не стаў ціха жыць на пенсіі, а заснаваў арганізацыю для абароны правоў зняволеных "ТаймАкт", якая размяшчалася ў адным памяшканні з прафсаюзам.

За тры месяцы даператрусу ён быў абраны на пасаду кіраўніка прафсаюза РЭП і адразу, успамінае ён, атрымаў папярэджанне, што можа зноў сустрэцца са сваімі былымі калегамі з ДВП, толькі з другога боку калючага дроту.

А Вольга Вялічка пра ад'езд гаворыць суха. У 2020 годзе яна ўваходзіла ў штаб Віктара Бабарыкі. Пасьля ягонага арышту дзве крымінальныя справы былі заведзеныя і на яе. Але не варта скардзіцца на якія-небудзь нягоды ўцекачоў з краіны, лічыць яна, калі 812 палітвязьняў сядзяць у турмах: "У мяне ўсё добра, я прыняла рашэнне не разглядаць свет праз прызму сваіх эмоцый".

**svaboda.org**

# У ВІЛЬНІ ПРАЦУЕ "БЕЛАРУСКІ ДОМ"

Зусім нядаўна ў Вільні па адрасе вул. Віленская 20 пачаў сваю дзейнасць "Беларускі дом", дзе адбываюцца культурніцкія імпрэзы, працуе нядзельная школа беларускай мовы.

Таксама там сустракаюцца беларусы, якія здаўна жывуць у Вільні, і тыя, каго выехаць са сваёй радзімы прымусілі палітычныя рэпрэсіі. У перспектыве тут узнікне беларускі музей.

Адной з ініцыятарак "Беларускага дому" ў Вільні з'яўляецца Людвіка Кардзіс, якая здаўна змагалася за тое, каб беларуская грамада ў Літве атрымала такі будынак.

**Яраслаў Іванюк, polskieradio.pl**



адукацыя

# Загадчык кафедры беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта: беларусы выходзяць з унутранай моўнай эміграцыі

Сёлета кафедра беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта адзначае 65-гадовы юбілей. З нагоды гэтай даты загадчык кафедры, беларусіст і навуковец Радаслаў Калета расказаў, як і навошта беларускую мову даследуюць і палякі, і беларусы.




### "Палітычная сітуацыя матывуе зацікаўленасць беларускай мовай"

**– Ці стаў гэты юбілей адметным? Можа, вы заўважылі, што цягам апошняга году змянілася стаўленне да беларускай мовы?**

– Бачым, што цяпер у нас навучаецца больш студэнтаў з Беларусі. На працягу апошніх гадоў тэндэнцыі былі розныя. Спачатку гэта былі прадстаўнікі беларускай нацыянальнай меншасці, якія пражываюць на тэрыторыі Падляскага ваяводства, потым палякі. А цяпер ужо таксама беларусы-мігранты, якія прыехалі ў Польшчу ці былі вымушаныя выехаць з сваёй краіны праз палітычныя ўмовы.

Думаю, што зацікаўленне мовай было заўсёды, можа, не масавае, але яно было. Безумоўна, палітычная сітуацыя яго зматывавала, мы гэта назіраем. Але яшчэ больш у нас было б студэнтаў, калі б у Беларусі падтрымлівалася беларуская мова як мова дзяржаўная. То тэндэнцыі былі б яшчэ больш перспектыўныя.

**– Шмат было выказванняў, што беларуская мова можа знікнуць. Ці, на вашую думку, цяпер у нейкім сэнсе пачалося яе адраджэнне?**

– Па-першае, я думаю, што беларуская мова не памрэ. Ёсць літаратура. Мова жыве ў інтэрнэце. Яна вельмі добра выкарыстоўваецца ў Беларусі ў Каталіцкай царкве, якая амаль выключна карыстаецца беларускай мовай.

**– Але ў выпадку камунікацыі паміж людзьмі сітуацыя выглядае па-іншаму...**

– Гэта, безумоўна, вялікая праблема. Мы ўсе ведаем, што большасць беларусаў у штодзённым жыцці выкарыстоўвае рускую мову. Гэта здзіўляе вельмі моцна палякаў і іншых. Яны былі ў шоку, калі вывучалі беларускую мову тут, а потым ехалі ў Беларусь і не маглі на ёй нармальна кантактаваць, бо ўсе адказы атрымлівалі па-руску. Я сам памятаю некалькі такіх сітуацый, пра якія можна было б і кнігу напісаць.

Аднойчы я быў Мінску разам з навукоўцам з Японіі, які вельмі добра валодае беларускай мовай. І калі ён хацеў паразмаўляць па-беларуску з кіроўцам маршруткі, то той прынцыпова адмаўляўся і адказваў на ўсе пытанні выключна па-руску. Можна з гэтага смяяцца, а можна плакаць, што нешта такое наагул мае месца.

**– Як вы думаеце, чаму такія сітуацыі маглі адбывацца? Якая галоўная прычына таго, што беларусы не хацелі гаварыць на роднай мове?**

– Гэта вельмі вялікае пытанне. Мяне асабіста цікавіць псіхалагічны фактар, нейкі "моўны сорам". Я гэта называю паняццем "моўная ўнутраная эміграцыя". Ёсць такі бар'ер, калі чалавек альбо баіцца гаварыць па-беларуску таму, што думае, што зробіць памылкі, альбо ён мае нейкія стэрэатыпы. І гэта мяне цікавіць: чаму напрыклад, чалавек 20 гадоў размаўляў па-руску, а ў нейкі момант асабіста для сябе прыняў рашэнне, што з гэтага дня пачынае гаварыць па-беларуску. Гэта вельмі індывідуальная справа ў кожнага. І яна звычайна звязана з асабістым досведам. Што цікава, пасля леташніх выбараў многія пачалі вяртацца з гэтай "унутранай моўнай эміграцыі". І што менавіта на гэта паўплывала? Ці толькі палітыка? Ці гэта нейкае захапленьне беларускасцю?..

### "Палякі, якія прыходзяць на першы курс, нават не ведаюць, што ў Беларусі дзве дзяржаўныя мовы"

**– Ці можна зрабіць выснову, што пасля падзей апошняга года беларусы адчулі сябе сапраўды часткай вялікай нацыі з сваёй гісторыяй, мовай і традыцыямі?**

– Я думаю, што беларусы адкрылі праўду. Я асабіста лічу, што гэта вялікая хлусня – гаварыць пра тое, што не было ніколі беларускай мовы ці няма цяпер, альбо няма адметнасці ў беларусаў. І ў гэта паверыла вялікая частка беларусаў, і цяпер яны гэта проста зразумелі, што іх гісторыя і краіна мае свае карані. Я як беларусіст ніколі не мог пагадзіцца з меркаваннямі, што беларуская мова – гэта не мова, а дыялект, што немагчыма па-беларуску пісаць навуковыя працы ці гаварыць.

**– І шмат такіх поглядаў вы сустракалі?**

– Шмат. Толькі думаю, што большасць палякаў так пра беларускую мову не думаюць. Палякі, якія прыходзяць да нас на першы курс, нават не ведаюць, што ёсць дзве дзяржаўныя мовы ў Беларусі і што, вывучыўшы беларускую мову, трэба будзе і так размаўляць там па-руску. І наш абавязак сказаць ім пра гэта. І для нас як для выкладчыкаў гэта заўсёды пытанне, калі ім пра гэта паведаміць, як патлумачыць, што ў Польшчы размаўляюць па-польску, у Нямеччыне па-нямецку, у Францыі па-французску, а ў Беларусі то ўжо цяжка сказаць... Для нас гэта складаная сітуацыя, бо мы павінны неяк матываваць студэнтаў.

Цяпер у Польшчы вельмі шмат беларусаў і яны альбо беларускамоўныя, альбо хочуць перайсці на гэтую мову ў штодзённым жыцці. І гэта дае магчымасць нашым польскім студэнтам паразмаўляць па-беларуску не ў Беларусі, а ў Варшаве.

### "Мы запрашаем тых, хто можа расказаць пра беларускую культуру, і не правяраем іхных палітычных поглядаў"

**– Што для вас асабіста значыць гэты юбілей?**

– Для мяне гэта перш за ўсё вялікая гісторыя, моцная падтрымка беларусістыкі і суседняй краіны.

**– Як цяпер выглядаюць стасункі з вашымі беларускімі калегамі?**

– Нашы кантакты не змяніліся, падтрымліваем сувязь з Інстытутам мовазнаўства імя Якуба Коласа, Нацыянальнай акадэміяй навук, з Гарадзенскім універсітэтам, Гомельскім. Ёсць праекты, якія мы разам арганізуем. Сёння запрашаем нашых беларускіх партнʼраў на анлайн-канферэнцыі.

Зразумела, немагчыма ўжо арганізаваць абмен студэнтаў праз пандэмію і з палітычных прычын. Але на мінулым тыдні нашыя студэнты паехалі на Падляшша на практыку. Павінны былі паехаць у Беларусь, але пачалося пагаршэнне палітычнай сытуацыі.

**– У сувязі з гэтым ці былі нейкія загады на афіцыйным узроўні з беларускага ці польскага боку аб прыпыненні супрацоўніцтва?**

– Не было. У нас ёсць дамовы, апошні раз мы падпісалі іх перад выбарамі.

Я хацеў бы падкрэсліць, што мы запрашаем асобаў, якія маглі б нам расказаць пра беларускую культуру, і не правяраем іхных палітычных поглядаў. Да нас раней прыязджалі і прадстаўнікі пасольства Беларусі, і Культурнага цэнтра Беларусі, нават некаторых дзяржаўных выдавецтваў.

Калі ёсць магчымасць, то запрашаем і дзеячаў культуры, якія цяпер знаходзяцца ў Польшчы і не могуць развіваць сваю дзейнасць у Беларусі.

Наша мэта і задача – падтрымліваць развіццё навукі і культуры і польска-беларускіх стасункаў на гэтым узроўні. Мы не займаемся палітыкай. Я

б вельмі не хацеў, каб былі нейкія загады, каго запрашаць, а каго не. Такога ў Польшчы не бывае і, спадзяюся, што ніколі не будзе.

Варшаўскі ўніверсітэт і рэктар нас як кафедру вельмі падтрымлівае. Мы маем своеасаблівую місію, каб паказаць Беларусь, яе скарбы не так, як яе паказваюць СМІ – ці то польскія, ці беларускія.

### “Пакуль мы бачым, што ёсць дзве Беларусі”

**– Ці кафедра беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта падтрымлівае кантакты з установамі вышэйшай адукацыі Заходняй Еўропы?**

– Спадзяёмся, што будзе супрацоўніцтва з універсітэтамі ў Літве, Нямеччыне, хаця гэта не так лёгка арганізаваць. У нас ужо ёсць падпісаная дамова з універсітэтам у Празе. У рамках праграмы “Эразмус” (праграма дае магчымасць навучацца, праходзіць стаж або выкладаць у іншай краіне, якая ўдзельнічае ў праграме. – РС) туды пакуль могуць ездзіць стажыравацца толькі нашыя выкладчыкі. Спадзяёмся, што неўзабаве паедуць і студэнты. Я стараюся ў кантактах з заходнімі калегамі быць амбасадарам, паказваць, што варта адкрываць такія напрамкі, як беларусістыка. Гэта складаны працэс, у яго павінны ўключыцца не толькі навукоўцы і ўніверсітэты, але таксама і палітыкі з Міністэрства адукацыі.

**– Як вы думаеце, ці шмат часу ён зойме?**

– Цяжка сказаць. Я ведаю што ў Славакіі былі курсы беларускай мовы, ёсць выкладчыкі з Беларусі, але трэба набраць мінімум 10 студэнтаў, каб былі заняткі. Няма такога напрамку, як беларусістыка. Гэта ўсе робіцца ў рамках славістыкі, рускай філалогіі як нейкі дадатковы прадмет.

Тое, што мы маем ва ўніверсітэце незалежную беларусістыку на ўзроўні кафедры – гэта вялікі поспех і падстава даводзіць, што мы можам працаваць, развівацца і далей матываваць іншых. Мы гатовы супрацоўнічаць і дапамагаць рыхтаваць праграмы, ездзіць чытаць лекцыі, каб толькі падтрымаць гэтую ініцыятыву.

Я думаю, што шмат залежыць і ад саміх беларусаў, ад таго, што будзе ў Беларусі, якая будзе моўная палітыка, адукацыйная. Ці будзе гэтая прастора для беларускасці. Мне цікава, якія будуць наступныя крокі і выбар звычайных людзей.

**– Значыць, перспектывы на гэты момант невядомыя?**

– Пакуль што мы бачым, што ёсць дзве Беларусі – Беларусь і новая Беларусь. Маем нейкія новыя фармулёўкі, вялікі падзел краіны. І ў выніку потым аказваецца, што і культура таксама дзеліцца на новую і старую. А гэта вельмі небяспечна. Зразумела, з чаго гэта вынікае, але палітызаваць усе сферы жыцця – гэта няправільна. Гэта ўжо было ў гісторыі, і мы ведаем, чым усё скончылася.

Таму я б не хацеў, каб дзейнасць нашай кафедры таксама назвалі нейкім тэрмінам – правільная ці няправільная. Я шкадую, напрыклад, што беларуская мова так палітызаваная, што вельмі рэдка ў дыскусіях пра беларускую мову ідзе гаворка менавіта пра мову, а не сродак нейкіх палітычных поглядаў.

Кафедра беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта – адзіная па-за межамі Беларусі навуковая беларусазнаўчая адзінка, заснаваная ў 1956 годзе ў Варшаўскім універсітэце. Ініцыятаркай яе стварэння, арганізатаркай і шматгадовай (да 1971 года) загадчыцай была прафесар, доктар габілітаваны Антаніна Абрэмбска-Яблоньска – вядомая славістка, аўтарка шматлікіх прац у галіне славянскага моваведання. У 1971–1975 гадах яе справу працягвала вядомая беларусістка і паланістка,




прафесар і доктар габілітаваны Эльжбета Смулкова, даследчыца польска-беларуска-літоўскага моўнага памежжа, а таксама першая амбасадарка Польскай Рэспублікі ў Беларусі. У стварэнні і фармаванні кафедры дапамогу аказаў Белдзяржуніверсітэт. Ён, між іншым, перадаў кафедры вялікую колькасць кніг па беларускай філалогіі, а таксама пры патрэбе дэлегаваў сваіх супрацоўнікаў для аказання падтрымкі ў дыдактыцы.

**svaboda.org**



# Анхела Эспіноса Руіс пачынае выкладаць беларускую мову ў Варшаўскім універсітэце

Беларуская паэтка гішпанскага паходжання Анхела Эспіноса Руіс з гэтага навучальнага года пачынае выкладаць беларускую мову ў Варшаўскім універсітэце.

У 2019 годзе на філалагічным факультэце Універсітэта Камплутэнсэ ў Мадрыдзе яна абараніла доктарскую дысертацыю “Сімвалізм народнага паходжання ў прозе Яна Баршчэўскага і Густава Адольфа Бэкера”.

“Варшаўскі ўнівесітэт мне добра знаёмы, бо тут я скончыла беларускую філалогію”, – адзначыла Анхела.

– Сёлета я буду выкладаць беларускую мову ў Варшаўскім універсітэце на кафедры беларускай філалогіі. Кафедра, дарэчы, адзначае юбілей – сёлета ёй 65 гадоў. Я буду працаваць у кірунку літаратуразнаўства, але таксама будуць і заняткі беларускай мовай для пачаткоўцаў. Курс будзе па-ангельску, менавіта пра літаратуру як форму пратэсту. І можа быць факультатыўная гішпанская мова ў другім семестры.

Анхела Эспіноса Руіс аўтарка пяці зборнікаў вершаў. Зрабіла пераклад на іспанскую мову вершаў Максіма Багдановіча. Яна лаўрэатка прэміі імя Міхася Стральцова, адной з самых прэстыжных у Беларусі.

**“Беларускае Радыё Рацыя”**

# “Беларуская акадэмія” атрымала афіцыйны дазвол у Польшчы на навучанне па-беларуску

“Беларуская акадэмія”, якая адкрылася сёлета на пачатку года і працуе дыстанцыйна ў партнёрстве з трыма навучальнымі ўстановамі Польшчы, атрымала афіцыйны дазвол на беларускамоўнае навучанне.

“Мы былі на адкрыцці навучальнага года нашага партнёра – Вышэйшай школы кадраў менеджменту ў Коніне, і рэктар паведаміў, што яны праз сенат правялі дазвол на выкладанне на беларускай мове”, – паведаміла Свабодзе ініцыятарка стварэння ў партнёрстве з польскімі навучальнымі ўстановамі “Беларускай акадэміі”, прафесарка Святлана Куль-Сяльверстава.

Святлана Куль-Сяльверстава была звольненая ў 2014 годзе з Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта і цяпер працуе ў Беластоцкім тэхнічным універсітэце Politechnika Białostocka.

Паводле яе, партнёрамі “Беларускай акадэміі”, у якой цяпер дыстанцыйна навучаецца 30 студэнтаў, з’яўляюцца Вышэйшая школа кадраў менеджменту ў Коніне, Вышэйшая школа гуманістычная ў Шчэціне, Вышэйшая школа фінансаў і менеджэмэнту ў Беластоку.

“Цяпер мы можам абвясціць афіцыйна, што з сакавіка 2022 года мы можам выкладаць па-беларуску”, – удакладніла яна. Дагэтуль у навучанні выкарыстоўваліся тры мовы – руская, беларуская і польская, але беларуская не мела афіцыйнага статусу ў працэсе навучання.

“Дагэтуль па-беларуску выкладалі ў Польшчы толькі на беларусістыцы, дзе яна ёсць”, – удакладніла Святлана Куль-Сяльверстава.

Прафесарка дадала, што цяпер “Беларуская акадэмія” падоўжыла да 1 лютага прыём дакументаў і будзе іх прымаць “татальна па-беларуску”.

“Беларуская акадэмія” сёлета правяла першы набор студэнтаў. Гэта дыстанцыйная адукацыйная платформа, якая ажыццяўляе навучанне на беларускай і рускай мовах паводле Балонскага працэсу з наступнай выдачай дыпломаў аб вышэйшай адукацыі еўрапейскага ўзору.

**Алена Літвінава, svaboda.org**

**in memoriam**

# Павел Севярынец – сыну: МОЙ ТАТА, А ТВОЙ ДЗЕД БЫЎ ЧАЛАВЕКАМ СВЕТЛЫМ

Сябра Рады "Бацькаўшчыны" даслаў з-за кратаў ліст сыночку Францішку. У лісце Паўла таксама быў намаляваны ім партрэт бацькі, Кастуся Севярынца, які памёр 1 кастрычніка.

Пра гэта на сваёй старонцы ў фэйсбуку распавяла жонка палітвязня Вольга Севярынец. Павел напісаў свайму сыну:




"...Мой тата, а твой дзед быў чалавекам светлым, таленавітым, дабрадушным і шчодрым. Нарадзіўся ён ва Унорыцы. Менавіта ён патлумачыў мне, што наша родная мова – беларуская, і што Беларусь мае быць незалежнай. Ён даглядаў мяне разам з бабай Таняй, маёй матуляй, карміў, апранаў, гадаваў і выхоўваў. Усіх нас, дзяцей, ён вадзіў на футбол, вазіў у грыбы – і, канечне, летам адпраўляў у любую Унорыцу. Калі ён прыходзіў дахаты, то званіў у званок бадзёра і весела – "там-там-тарарам – таратара-тарам!", і мы ўсе падхоплівалі: "Вось і тата прыйшоў!"

Дзед Косця пісаў вельмі добрыя вершы, багата дапамагаў іншым, расказваў пра Беларусь, вучыў ставіцца да жыцця спакойна, добра гатаваў і складаў цэлыя кніжкі для дзяцей.

Словам, твой дзед Кастусь Севярынец быў цудоўным чалавекам. Ведай гэта. Вельмі шмат людзей кажуць пра яго добрыя словы і праводзілі яго на неба.

Дасылаю табе ягоны партрэт – і дзякую табе за малітву за дзеда Косцю!"

**novychas.by**

# НЕ СТАЛА БЕЛАРУСКАГА ПАЭТА І ПЕРАКЛАДЧЫКА З ПАДМАСКОЎЯ ІГАРА БУРСЕВІЧА

З горада Балашыха прыйшла сумная вестка – на 72 годзе жыцця ад каранавірусу памёр паэт і перакладчык Ігар Бурсевіч (1949-2021).

Родам Ігар Бурсевіч быў з вёскі Чамяры Слонімскага раёна. З той вёскі, з якой паходзяць вядомыя на Беларусі людзі: палітык былой Заходняй Беларусі Максім Бурсевіч, доктар медыцынскіх навук Андрэй Пракапчук, доктар гістарычных навук Міхаіл Міско, даследчыкі беларускага тэатра Сцяпан Міско і Уладзімір Іскрык, скульптар Іван Міско, пісьменнікі Анатоль Іверс, Якуб Міско, Іван Чыгрын і іншыя.



Тут прайшло яго дзяцінства і школьныя гады. Адсюль ён падаўся ў свет, бо выбраў сур'ёзную прафесію ваеннага будаўніка. Таму, куды пасылала на той час вялікая краіна СССР, там і прыходзілася служыць і жыць. А калі атрымліваў армейскі водпуск – спяшаўся на сваю Бацькаўшчыну, да родных і блізкіх людзей, да сваіх землякоў. Пра іх і пісаў свае вершы па-беларуску і па-расейску.

У 2004 годзе ў Слоніме выйшаў з друку яго першы зборнік вершаў "Рамантыка дарог". А потым былі новыя кнігі, якія ўсе выйшлі ў Беларусі, найперш у мінскім выдавецтве "Кнігазбор". А гэта тамы паэзіі і перакладаў "Карусель лістапада", "Радзімы роднай краявіды", "Слонімскі сшытак" і многія іншыя.

Ігар Бурсевіч пераклаў на беларускую мову "Яўгенія Анегіна" Пушкіна, вершы Міхаіла Лермантава, Мікалая Някрасава і многіх іншых расейскіх паэтаў. Свае кнігі ён дарыў землякам і сябрам. А астатні тыраж вёз у Расію, і жартам казаў, "няхай ведаюць, што наша мова прыгажэйшая за рускую".

Пахавалі Ігара Бурсевіча далёка ад Слонімшчыны на могілках у Балашысе, хаця заўсёды казаў, што хоча ляжаць са сваімі землякамі на вясковых могілках у Чамярах:

*Толькі тут заўсёды сэрца,*
*Сярод велічы бароў.*
*Жаўруком таемна б'ецца*
*Разам з жартамі сяброў…*

**Барыс Баль, "Беларускае Радыё Рацыя"**

## Беларускі каляндар памятных дат на лістапад 2021 года

**3 лістапада**
- 80 гадоў таму, у 1941-м, памёр Змітрок Бядуля, пісьменнік.

**4 лістапада**
- 205 гадоў таму, у 1816-м, нарадзіўся Арцём Вярыга-Дарэўскі, пісьменнік, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг. на Віцебшчыне. Памёр у 1884-м.

**6 лістапада**
- 130 гадоў таму, у 1891-м, нарадзіўся Іосіф Воўк-Левановіч, мовазнавец. Памёр у 1943-м.

**7 лістапада**
- 135 гадоў таму, у 1886-м, нарадзіўся Генрык Бэта, пісьменнік. Памёр у 1965-м.
- 125 гадоў таму, у 1896-м, нарадзіўся Міхась Чарот (сапр. Кудзелька), паэт. Загінуў у 1937-м.

**10 лістапада**
- 170 гадоў таму, у 1851-м, памёр Ян Ходзька (Барэйка), пісьменнік.

**12 лістапада**
- 365 гадоў таму, у 1656-м, памёр Альбрыхт Станіслаў Радзівіл, гісторык.

**14 лістапада**
- 35 гадоў таму, у 1986-м, памёр Мікола Улашчык, гісторык.

**17 лістапада**
- 115 гадоў таму, у 1906-м, нарадзіўся Янка Багдановіч, пісьменнік. Памёр у 1990-м.

**20 лістапада**
- 120 гадоў таму, у 1901-м, нарадзіўся Міхась Зарэцкі (сапр. Міхась Касянкоў), пісьменнік. Загінуў у 1937-м.

**22 лістапада**
- 185 гадоў таму, у 1836-м, памёр Якуб Фалькоўскі, літаратуразнавец.

**23 лістапада**
- 150 гадоў таму, у 1871-м, нарадзіўся Уладзімір Тэраўскі, кампазітар. Загінуў у 1938-м.
- 115 гадоў таму, у 1906-м, у Вільні выйшаў першы нумар газеты «Наша Ніва».

**26 лістапада**
- 130 гадоў таму, у 1891-м, нарадзіўся Янка Станкевіч, мовазнавец, гісторык, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША. Памёр у 1976-м.
- 125 гадоў таму, у 1896-м, памёр Канстанцін Ельскі, заолаг, географ, геолаг.

**27 лістапада**
- 100 гадоў таму, у 1921-м, нарадзіўся Уладзімір Тарасевіч, дзеяч беларускай эміграцыі ў ЗША. Памёр у 1986-м.
- 45 гадоў таму, у 1976-м, на беларускай дзялянцы могілак Фолкнер у Мельбурне адбылося ўрачыстае асвячэнне помніка «На вечны ўспамін спачылых усіх ведамых і няведамых Беларусаў».

**Беларусы ў свеце**
№ 10 (233), кастрычнік 2021

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандрацэнка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 357-70-27